# МІНСКАЯ ПРАЎДА

Газета заснавана 1 лістапада 1950г. | Чацвер, 14 красавіка 1994 года | № 40 (10740) | Цана 80 руб.




## КРОКІ ПЕРАДВЫБАРНАЙ КАМПАНІІ

**Як вядома, тэрміны падрыхтоўкі да выбараў першага прэзідэнта Рэспублікі Беларусь надзвычай сціслыя. Каб такая важная кампанія прайшла дэмакратычна, пры высокай актыўнасці насельніцтва, трэба ўжо сёння разгарнуць арганізацыйную і масавую работу.**

Аб гэтым ішла размова ў Нясвіжы на раённым сходзе старшынь і сакратароў сельскіх і пасялковага Саветаў. З інфармацыяй выступілі намеснік старшыні райвыканкома Г.У.Пархомчык і загадчык аддзела арганізацыйнай і кадравай работы А.А.Карнюшкін.

Яны, у прыватнасці, азнаёмілі прысутных з асноўнымі палажэннямі Закона аб выбарах прэзідэнта рэспублікі. Засяродзілі ўвагу на тым, каб своечасова былі створаны раённая і ўчастковыя камісіі, дакладна складзены спісы выбаршчыкаў.

На сходзе выступіў старшыня аблвыканкома А.І. Цішкевіч. Ён расказаў, як працавала народная гаспадарка вобласці ў першым квартале. Вынікі -- несуцяшальныя. Многія прамысловыя прадпрыемствы прастойвалі. На складах сабралася шмат прадукцыі: з-за высокай цаны яна не рэалізуецца. Складанае фінансавае становішча. Нярэдка няма нават магчымасці своечасова выдаць састарэлым людзям пенсіі. Адзін са шляхоў папаўнення грашовых сродкаў -- стварэнне сумесных прадпрыемстваў з Расіяй /менавіта з Расіяй, бо з Амерыкай, Германіяй яны ёсць, а з бліжэйшым суседам -- няма/.

Некалькі палепшыліся справы ў сельскай гаспадарцы. Асабліва па вытворчасці і продажу малака. Што датычыць мяснога цэха, то тут яшчэ шмат недахопаў.

Цяпер важна, падкрэсліў старшыня аблвыканкома, якасна правесці палявыя работы. У вобласці зімой на значных плошчах загінулі азімыя культуры, рапс. На 65 тысячах гектараў не ўзнята зябліва. Калгасы і саўгасы ў асноўным забяспечаны бензінам і дызпалівам. Неабходна, каб работы на палетках вяліся зладжана і хутка.

Прамоўца зазначыў, што нягледзячы на эканамічныя цяжкасці нельга дапусціць зніжэння ўзроўню жыцця людзей. І тут многае могуць зрабіць мясцовыя Саветы, кіраўнікі прамысловых прадпрыемстваў, калгасаў і саўгасаў.

Спыніўшыся на пытанні падрыхтоўкі да выбараў прэзідэнта РБ, А.І.Цішкевіч зазначыў: гэта вельмі сур"ёзная і адказная справа. Кандыдатаў набярэцца, па ўсім відаць, нямала. І людзі змогуць аддаць свае галасы за таго, хто , на іх думку, будзе сапраўдным лідэрам.

Сходы з удзелам А.І.Цішкевіча ў той жа дзень адбыліся ў Клецку і Стоўбцах.

*Канстанцін ПРЫЁМКА.*

## БЕДНОСТЬ — НЕ ПОРОК,

### *но и терпению приходит конец*

Подход государства к предприятиям, определяющим уровень науки и технологии в республике, пока удивительно однотипен -- бьют молотом высоких налогов по наковальне мизерных зарплат. Ни один промышленный гигант не может здесь устоять. Вокруг только и слышно: один завод остановился, на другом перешли на трех-четырехдневную неделю. Цены стремительно растут, уровень жизни не менее стремительно падает. Многие продукты и товары сейчас недоступны.

На одной из пресс-конференций высокопоставленный чиновник обронил: "Что это пресса все время драматизирует обстановку? Вы видели хотя бы одного голодающего?" Есть и они, особенно среди людей с маленькой пенсией. И недоедающие. Вот что ответили работники НПО "Интеграл" на вопрос:"Как Вам живется при нынешних ценах и кто виноват в ценовом беспределе?"

**Юрий Поддубный,** слесарь-инструментальщик:

-- Где это видано, чтобы двое здоровых молодых родителей не могли прокормить единственную дочку? Я далеко не всегда могу купить ребенку конфеты, фрукты. В дороговизне продуктов виновато правительство, и не только нынешнее, но и предыдущее.

**Жанна Рябцева**, контролер ОТК:

-- Никто, кроме наших руководителей, в экономической разрухе не виноват. Складывается впечатление, что временные люди решают какие-то временные дела. Живу я плохо, не хочется распространяться на эту тему.

**Владимир Боровой,** мастер отдела главного энергетика:

-- Мне страшно. Жену сократили, сейчас безработная, ходит на курсы по переподготовке. У меня две дочери, одна из них серьезно больна. Нужно много денег на хорошее питание, а одна курица стоит пятнадцать тысяч. Не платили за квартиру уже четыре месяца. Соки и фрукты для моих детей недоступны.

**Мария Шиян,** начальник цехового техбюро:

-- Никак не могу понять, кто же виноват? Или на нас снизошло коллективное безумие? Почему власть имущие обращаются с народом, как с быдлом? Кто довел процветавшую Беларусь до ручки? Зарплаты не хватает на самое необходимое. Начинаю забывать вкус продуктов, которые раньше не переводились в моем холодильнике. У меня две дочери, 18 и 22 лет. Чем я им могу помочь?

Вот так ответили работники крупнейшего предприятия республики высокопоставленному чиновнику, не узревшему нигде голодных глаз. В 1992 году всем нам пообещали новую, по западным меркам, жизнь. Но прошел год, жизнь большинства людей стала намного хуже. Оставались смутные надежды на 1993-й. Но и он не стал годом "решающего перелома". Те самые люди, которые составляли "Основные направления развития народного хозяйства БССР в ... пятилетке", разработали "Основные направления действий по выходу Республики Беларусь из кризисной социально-экономической ситуации и ускорению рыночных реформ". Но все остается на бумаге. Сейчас говорят о новых путях выхода из кризиса.

А между тем у людей изнашивается одежда и обувь, требуется ремонт квартир и многое другое. Потерпеть, не покупать одежду, обувь, кастрюли, книги, не ходить в театр и кино, на концерты можно полгода, год, полтора... Но затем наступает критический момент. Долготерпению когда-нибудь приходит конец. Куда же мы идем? Чего ждем? И будет ли положен конец экономической вакханалии?

*Вячеслав ИЩЕНКО.*



*Больш як дваццаць гадоў сустракаюць вясну ў полі за рулём трактара механізатары калгаса "Палажэвічы" Старадарожскага раёна Анатоль Адамавіч **Лапанік** і Мікалай Аляксеевіч **Пятроў** /на здымку/. У гаспадарцы добра падрыхтаваліся да веснавых палявых работ.*

*Вывезена асноўная маса арганічных угнаенняў, пракантралявана гатоўнасць пасяўной і глебаапрацоўчай тэхнікі /на здымку/.*

*Фота Анатоля БАСАВА.*



■ Кантакты -- кантракты

## КАМУНТЭХНІКА-94

Жыллёва-камунальная гаспадарка рэспублікі -- гэта складаны народнагаспадарчы комплекс, які ахоплівае больш дваццаці галін і відаў дзейнасці. Яна мае адну трэцюю частку асноўных фондаў рэспублікі і спажывае пятую частку ўсіх яе паліўна-энергетычных рэсурсаў. Паслугамі жыллёва-камунальнай сферы пастаянна карыстаюцца звыш 8 мільёнаў жыхароў гарадоў і пасёлкаў Беларусі. Для забеспячэння нармальнай работы неабходна адпаведнае тэхнічнае аснашчэнне ўсіх яе падраздзяленняў.

І спецыялізаваныя прадпрыемствы Мінжылкамгаса выпускаюць камунальныя машыны, вадагрэйныя катлы, гарэлкі для спальвання газу і вадкага паліва, аўтаматыку для кацельняў, разнастайную водаразборную і запорна-рэгулюючую апаратуру і многае іншае. У той жа час нашы жыллёва-камунальныя арганізацыі маюць вялікую патрэбу ў набыцці той тэхнікі, якая пакуль што не вырабляецца ў нас.

Садзейнічаць развіццю міжнародных навукова-тэхнічных і камерцыйных сувязей прадпрыемстваў і арганізацый галіны якраз і заклікана спецыялізаваная выстаўка "Камунтэхніка-94", якая будзе працаваць у выставачным комплексе "Мінскэкспа" па праспекце Машэрава з 18 па 22 красавіка. Удзел у ёй прымуць аб'яднанне "Белкамунмаш", мінскія заводы "Белспецкамунмаш" і эксперыментальны ліцейна-механічны, шэраг прадпрыемстваў з іншых абласцей рэспублікі, а таксама -- з Украіны, Расіі, Малдовы, Латвіі, Літвы, фірмы з Даніі, Славакіі, Швецыі, Бельгіі, Германіі, Польшчы, Люксембурга, Галандыі.

У рамках выстаўкі прадугледжана правядзенне сімпозіумаў па актуальных праблемах развіцця жыллёва-камунальнай гаспадаркі.

*Пётр Сідаровіч.*

## НЕ ТОЛЬКІ ВОЛАТЫ "БелАЗы",

### а і малатанажныя аўтамабілі выпускаюцца цяпер у Жодзіне

**Жодзінскія белазаўцы сумесна з польскімі аўтамабілебудаўнікамі з горада Любліна наладжваюць у Беларусі вытворчасць малатанажных аўтамабіляў. У канцы сакавіка з завезеных з братняй краіны гатовых вузлоў і дэталей ужо сабрана пяць такіх машын грузавога варыянта. На трох устаноўлены звычайныя бартавыя кузавы, якія лёгка абцягваюцца тэнтамі, на дзвюх замацаваны кантэйнеры для перавозкі прадуктаў харчавання. Гэты кантэйнер ізатэрмічны, захоўвае як цяпло, так і холад.**

Аўтару гэтых радкоў давялося прысутнічаць на зборачнай пляцоўцы прадпрыемства ў час устаноўкі на шасі ізатэрмічнага кантэйнера. Каля новага аўтамабіля разам з белазаўцамі працавалі тры палякі, якія прыехалі ў Жодзіна падзяліцца вопытам зборкі. Там жа ўдалося пагутарыць з галоўным тэхнолагам БелАЗа Леанідам Акулавым і з намеснікам галоўнага інжынера па новай тэхніцы Рыгорам Гарачым. Спецыялісты паведамілі, што ў хуткім часе для камплектацыі новага аўтамабіля завадчане будуць выкарыстоўваць свае акумулятарныя батарэі і некаторыя дэталі ўласнай вытворчасці, наменклатура якіх будзе пашырацца. Цяпер вядзецца падрыхтоўка да выпуску пасажырскага варыянта -- мікрааўтобуса. А ў перспектыве ёсць намер сканструяваць і наладзіць серыйны выпуск малатанажных аўтасамазвалаў.

Пакуль ручная зборка новых аўтамабіляў наладжана ў адным з вытворчых памяшканняў Беларускага аўтазавода, а ў перспектыве запрацуе зборачны канвеер.

Сёлета белазаўцы плануюць сабраць звыш двухсот аўтамабіляў з дызельным рухавіком грузападымальнасцю 1,2 -- 1,3 тоны, і ў першую чаргу -- для патрэб беларускіх спажыўцоў. Калі ж попыт на навінку будзе расці, то адпаведна будзе пашырацца і вытворчасць малатанажных аўто.

*Мікалай ЧАЛЕЙ.*

■ 1994 -- Год сям"і

## ВЫШЫЎКА НА ПАМЯЦЬ

Кацярына Уладзіміраўна прысела на канапу -- стамілася за дзень. Уладзімір Сяргеевіч адклаў у бок газеты, хуценька ўзяўся за вядро і пачаў гатаваць ежу для жывёлы.

-- Сённяшняе жыццё прымушае і ў горадзе свіней гадаваць, -- растлумачыў на хаду.

Дружная сям"я Кур"яновічаў жыве ў адной з кватэр былога адміністрацыйнага будынка на Гайненскай вуліцы, кудымы і завіталі ў госці.

-- Галоўнае ў сямейным жыцці -- лад і ўзаемаразуменне, -- лічыць Уладзімір Сяргеевіч.

Гэтаму залатому правілу яны вучылі і сваіх дзяцей. Трыццаць гадоў ідуць поруч па жыцці Кур"яновічы, дзелячы пароўну радасці і смутак -- усялякае здараецца.

Чулая, спагадлівая натура Кацярыны ўвабрала ў сябе чароўную прыгажосць краявідаў Старадарожчыны, ваколіц невялікай вёсачкі Заастроўе. Пазней усё гэта хараство яна перанесла на вышываныя ручнікі, абрусы, сурвэткі. Колькі непаўторнай прыгажосці рэчаў зрабілі ўмелыя рукі самадзейнай майстрыхі! Прычым усе вышываныя работы яна старалася выканаць так, каб на адваротным баку нельга было знайсці ні вузельчыка. Усе свае вырабы жанчына ніколі не выстаўляла на паказ, не ўзяла за іх ні капейкі. А іх ведаюць далёка за межамі раёна і рэспублікі. Кацярына Уладзіміраўна проста дорыць іх людзям -- з любой нагоды.

Аднойчы яна адрэстаўрыравала пры дапамозе ручной вышыўкі дарагую сукенку замежнай вытворчасці. Прычым зрабіла гэта на высокім мастацкім узроўні.

Шмат гадоў яна вяла гурток мастацкай вышыўкі ў Доме дзіцячай творчасці, перадавала свой вопыт і веды. Вучыла дзяцей не толькі шыць і вышываць, а бачыць, адчуваць прыгажосць.

Добра шые, вышывае, а таксама і кулінарыць малодшая дачка Кур"яновічаў Іна. А старэйшы сын Генадзь да гэтага часу захоўвае сваю першую вышыўку -- алімпійскую сімволіку на спартыўнай майцы.

Сыны пайшлі па шляху бацькі, звязалі свой лёс з тэхнікай. Яны закончылі інстытут механізацыі. Дзмітрый, як і бацька, працуе ў райаграпрамтэхніцы. Генадзь знайшоў прымяненне сваім ведам ажно ў Саратаве. Набыла прафесію эканаміста дачка Іна. Яна працуе па спецыяльнасці ў Лагойскім РАНА.

Але заўсёды на святы збіраюцца ўсе Кур"яновічы ў бацькоўскай хаце. Кацярына Уладзіміраўна выпякае для жаданых гасцей розныя прысмакі, пірагі. Гоманам, вяселлем, шчэбетам маленькіх унучак поўніцца кватэра. Ад шчырасці і дабрыні гаспадыні становіцца цяплей і ўтульней. І квітнеюць у родных сэрцах сады, як на той памятнай вышыўцы Кацярыны Уладзіміраўны.

*Вольга МАЗГО.*
*Лагойскі раён.*

Крымінал-тэлетайп

### На "паляванне" выйшлі дзеці...

***У вёсцы Слабада Бярэзінскага раёна ў мясцовага жыхара прапаў матацыкл з каляскай. Як высветлілася, крадзеж учынілі вучні 9--10 класаў мясцовай школы.***

***У Мінскім раёне падлеткі "пагаспадарылі" ў дачным доміку. Адтуль зніклі і тушонка, і боты, і коўдры. Затрыманы вучні 6--9 класаў з г.Мінска.***

***Пакваліліся на салодкую прадукцыю два браты -- вучні 7-га і 2-га класаў адной з салігорскіх школ. Яны залезлі ў магазін і ўкралі шакаладную пасту, зефір, жвачку.***

### Тайнае становіцца яўным

***У пасёлку Гатава, што пад Мінскам, са склада знікла 150 метраў металічнага вугалка. Калі праваахоўныя органы пачалі высвятляць, хто ўчыніў крадзеж, то аказалася, што зладзеі тут, побач, не трэба доўга шукаць. Імі аказаліся вартаўнік гэтага ж склада, майстар, рабочы.***

***А вось гэты крадзеж перапалохаў увесь саўгас "Вешаўскі" Бярэзінскага раёна. З тэрыторыі мехдвара знік трактар "МТЗ-80". Кінуліся шукаць злодзея -- а ён свой, мясцовы. Палявод гаспадаркі, які вырашыў пакатацца з ветрыкам, затрыманы. Да таго ж ён быў п'яны.***

### Крадзяжы лідзіруюць

***І можна толькі дадаць: з пагаршэннем эканамічнага становішча яны яшчэ доўга будуць фаварытамі крымінальнага становішча.***

***У Салігорскім раёне з прыбудовы хаты жыхара Старобіна зладзеі ўкралі 2 скрыні гарэлкі, цыгарэты і іншыя прыпасы.***

***"Улоў" у вёсцы Апчак Мінскага раёна ў зладзеяў быў больш важкі: магнітафон, блокі імпартных цыгарэт, 2 тысячы долараў і 1,5 мільёна расійскіх рублёў.***

***Трашчаць і ФАПы. У вёсцы Зенькавічы УзДзенскага раёна невядомыя забралі не толькі лекі, але і грошы.***

*Ірына АНДРЭЕВА.*

*Надвор"е*

***Сёння ўдзень па вобласці чакаецца воблачнае з праясненнямі надвор"е, месцамі дажджы, навальніцы. Тэмпература паветра -- 9 -- 14 , у Мінску -- 10 -- 12 градусаў цяпла.***

Сумнавата...

## "МЫ МОЖАМ УСЁ. І НЕ МОЖАМ НІЧОГА"

**Сведчу: будынак Ракаўскай участковай у параўнанні з іншымі "земскімі" бальніцамі /якіх мне давялося пабачыць не так ужо і мала/ -- амаль шэдэўр архітэктуры. Сельскай, вядома. Ва ўсякім разе, гэта адзіная не прыстасаваная -- тыпавая бальніца ў Валожынскім раёне. З адпаведным, дарэчы, берандзееўскім пейзажам наўкол. Вось гэтым маляўнічым лесам ды сцежкамі-дарожкамі паабапал яго "нясуць" сюды пацыенты свае хваробы. Калі з Ракава -- не менш двух кіламетраў атрымаецца, калі з суседніх вёсак -- дык і больш.**

Дакладна ведаю: у часіны больш шчаслівыя, чым сённяшнія, блукала па адпаведных інстанцыях думка завярнуць сюды аўтобус "Валожын--Ракаў". У якіх кабінетах згубілася яна цяпер, ніхто сказаць не бярэцца. Так што пераважная большасць з пяці тысяч прыпісаных да бальніцы жыхароў двух сельсаветаў могуць патрапіць на яе пяцьдзесят ложкаў часцей за ўсё на сваіх дваіх. Ну а калі адна з "дваіх" закульгала -- ёсць шанц выкарыстаць "хуткую". Калі, вядома, ён ёсць...

-- Сёння "хуткая дапамога" не выязджала зусім, учора -- на адзін выклік, -- з сумам канстатаваў Эдуард Генрыхавіч Грынкевіч, галоўурач Ракаўскай участковай. -- Бензін, а дакладней -- яго адсутнасць за глотку бярэ! Добра, што шаша-выратавальніца пад бокам: тармазнеш шафёра на трасе, бутэльку ў прэзент, вось і плыве патрошкі бензінавае багацце...

Дзякуючы гэтай "кантрабанднай", а таксама некаторым больш высакародным формам бензіназдабычы галоўнага доктара, у баку ракаўскай "хуткай" бензін часцей ёсць, чым няма. Праўда, прынцып адбору тых, каму ў першую чаргу патрэбна дапамога, даволі жорсткі: дзеці да года, цяжарныя жанчыны, роды ды яшчэ цяжкія траўмы, якія раз-пораз "падкідвае" мітуслівая Ракаўская шаша.

На што ж разлічваць астатнім хворым? На свой транспарт. На спрытныя ногі вясковай фельчаркі /падначаленую бальніцы тэрыторыю абслугоўваюць чатыры ФАПы/. На кволую пры стрэсавым жыцці надзею ні ў якім разе не захварэць. Інакш...

-- Добра, што людзі ў нас да ўсяго прывычныя, -- разважаў пры размове доктар Грынкевіч. -- Сёння ў бальніцы няма чым лячыць -- дзядок рукамі развядзе і паклыпаў паціхеньку дадому... У чалавека вывіх пляча -- не магу зрабіць анестэзію, паступае хворы з пераломам рэбраў -- абязболіць няма чым. У мяне сёння на зыходзе раствор для пералівання крыві. Крый божа, аварыя якая здарыцца: гэта ж аднаму добраму мужыку ўліць -- і кропка. А іншых што -- на месцы закопваць?..

Ды і гаварыць аб гэтым, шчыра кажучы, ахвота невялікая. Ну скажыце, каму патрэбен чарговы "плач Яраслаўны" аб тым, што ў медыцыне ўсё дрэнна? -- скептычна зазначыў мой субяседнік. -- Калі ўсім ясна, што ў нас нічога няма нават у колькасці больш-менш прыстойнай. Ні бензіну, ні лякарстваў. А галоўнае -- грошай на набыццё таго і другога.

Вось, у прыватнасці, аб гэтым, а не аб "удасканаленні прафесійнага майстэрства", як калісьці, думаюць цяпер спецыялісты з калектыву Ракаўскай участковай. У складзе тэрапеўтаў і педыятра, гінеколага, стаматолага і хірурга /ён жа -- галоўурач/. Пры наяўнасці нядрэнных рэнтген- і фізіякабінетаў, стацыянарнага флюарографа. Пры магчымасці займацца ультрагукавой дыягностыкай і рэфлексатэрапіяй. Пагадзіцеся: "набор" для звычайнай сельскай бальніцы куды як "перавысіў" традыцыйны!

-- Мы можам рабіць тут, на месцы, амаль усё: ад ампутацыі канечнасці да мініабортаў, -- запэўніў у здольнасцях узначальваемага ім калектыву галоўны доктар з Ракава. -- І не можам пры цяперашніх умовах амаль нічога. Мне здаецца, што ў чалавека з нармальнага, цывілізаванага грамадства ад усяго гэтага валасы дуба сталі б. Разам з шапкай.

Дарэчы, прыблізна такі факт "меў месца быць", калі -- была справа -- завіталі ў раён чарговыя нямецкія спадары. Аказалі гонар і Ракаўскай бальніцы. Павойкалі-паахкалі на беднасць нашу, па маштабах не ракаўскую -- дзяржаўную. Абяцалі ў жніўні зноў завярнуць у мясціны тутэйшыя. І -- не выключана! -- расшчодрыцца.

Але пакуль яшчэ прыбудзе з-за мяжы тая дапамога! Не надта спадзеючыся на дробныя заморскія міласці, мясцовыя лекары пакрысе падсалоджваюць горкае жыццё-быццё, сваё і пацыенцкае. Скажам, шляхам "навядзення мастоў". Па-першае, з суседнімі сталічнымі базамі і лагерамі адпачынку, якіх вакол -- ажно з два дзесяткі. Адпачываючым прапануе аздаравіцца адміністрацыя Ракаўскай бальніцы пры дапамозе, напрыклад, фізіяпрацэдур. Заробак у такім выпадку складае пару соцень тысяч. Але ж такая сума, паводле слоў галоўурача, мала што вырашае ў цяперашні час.

Што датычыць "мастоў" да хворых... Вядома, калі гара не ідзе да Магамета, апошні сам спяшаецца да яе. Вось так, дзякуючы рэгулярным "выязным чацвяргам" ракаўскія медыкі скарачаюць дыстанцыю паміж меддапамогай і маючымі патрэбу ў ёй. Штомесячныя "дэсанты" лекараў, безумоўна, даюць магчымасць выратаваць камусьці з вяскоўцаў, скажам, станчэлы зуб. А вось яго ўладальніка... Сціплыя фапаўскія ўмовы ў выпадку сапраўды экстранным -- памочнік дрэнны. Таму дай божа, каб у баку ракаўскай "хуткай" на той час аказаўся б бензін. А інакш... Інакш трапнае "гэта проста жах!" доктара Грынкевіча, які такім чынам ацаніў цяперашні стан аховы здароўя /ва ўсякім разе, у сельскім варыянце/, мы, пацыенты, падтрымаем аднадушна. Калі не сказаць больш...

Напрыканцы свайго візіту я даведалася: у шэдэўры сельскай архітэктуры з шыльдай "Ракаўская бальніца" адбыліся два міні-цуды. З чарговай "аптэчкай" сюды, нарэшце, патрапіў жаданы анальгін, які адсутнічаў... паўгода! Праўда, як мяркуюць медыкі, хворыя "расправяцца" з ім усяго за тыдзень. І што потым?..

А з раённай кішэні ў бальнічную перакачавала ні многа, ні мала -- некалькі мільёнаў, якіх павінна было б хапіць ажно на цэлы бензавоз паліва. Учора. А сёння бензін, кажуць, падаражэў у два разы...

*Інеса ПЕТРУСЕВІЧ.*
*Валожынскі раён.*

Актуальнае інтэрв"ю

# Страчваем самае каштоўнае — людзей

## Мы пераступілі ўжо мяжу, за якой пачынаецца выміранне нацыі

**Кажуць, што на свеце больш за ўсё пасажыраў. Яны -- у цягніках, самалётах, аўтобусах і г.д. Адны едуць, каб праз некаторы час вярнуцца назад. Другія -- назаўсёды або амаль назаўсёды мяняюць месца жыхарства. Навука дэмаграфія называе такое перамяшчэнне міграцыяй. Апошнім часам паток мігрантаў літаральна захліснуў нашу рэспубліку. Вывучэннем гэтага надзвычай складанага працэсу, а таксама іншых дэмаграфічных праблем у нашай рэспубліцы на працягу многіх гадоў займалася Браніслава Адольфаўна МАНАК -- дацэнт геафака Белдзяржуніверсітэта. Вынікам яе працы стала выйшаўшая нядаўна з друку кніга "Насельніцтва Беларусі: рэгіянальныя асаблівасці развіцця і рассялення". Гэта першае абагульняючае геаграфічнае даследаванне сацыяльна-дэмаграфічнага развіцця і рассялення насельніцтва рэспублікі, якое ахоплівае даволі значны гістарычны перыяд, прычым з улікам чарнобыльскай аварыі. "*Чаму першае?*" -- пацікавіўся я ў аўтара.**

-- Дэмаграфію ў некаторым сэнсе можна назваць "сакрэтнай" навукай, -- сказала Браніслава Адольфаўна. Яна цесна звязана з палітыкай. Адлюстроўвае зрухі ў грамадстве, якія адбываюцца ў выніку тых ці іншых палітычных дзеянняў. Адпаведныя колы не заўсёды зацікаўлены ў тым, каб гэта стала шырокавядомым. Пераканаўчым прыкладам можна назваць перапіс насельніцтва СССР у 1937 годзе. Усіх, хто меў да яго дачыненне, ліквідавалі, а матэрыялы знішчылі. У 1939 годзе быў праведзены паўторны перапіс. Яго вынікі ўжо, відаць, задаволілі тагачаснае кіраўніцтва СССР. Дарэчы, у трыццатыя гады быў рэпрэсіраваны выдатны беларускі географ Аркадзь Смоліч. Ён першы пачаў вывучаць насельніцтва Беларусі. Напісаў цудоўную працу па дэмаграфіі, быў за яе ўзнагароджаны. І вось такі трагічны лёс напаткаў гэтага чалавека.

Пазней многія працы дэмографаў таксама не выходзілі на шырокую аўдыторыю. На іх даследаваннях ставіліся грыфы "для службовага карыстання" або "сакрэтна".

Я асабіста пачала вывучаць насельніцтва Беларусі з трэцяга курса. І амаль увесь гэты час мне, каб атрымаць неабходны матэрыял для навуковай працы, прыходзілася браць спецыяльны допуск. Нават для таго, каб даведацца, колькі людзей пражывае ў тым ці іншым раённым гарадку.

Наогул, толькі дзякуючы пераменам апошніх гадоў мая кніга змагла ўбачыць свет. Па мерках яшчэ зусім нядаўніх часоў у ёй шмат "сакрэтнай" інфармацыі.

***-- Да "сакрэтнай" інфармацыі, выходзіць, можна аднесці і міграцыйны працэс на Беларусі, даследаваны вамі амаль на працягу стагоддзя. У чым яго асаблівасці?***

-- Дваццатае стагоддзе можна назваць стагоддзем дэмаграфічнай рэвалюцыі ў нашай рэспубліцы. На параўнаўча кароткім адрэзку часу назіраўся небывалы дэмаграфічны ўсплёск.

Возьмем пачатак стагоддзя. Беларусь па свайму характару аграрная, сялянская. Яна мае вельмі высокі натуральны прырост. Як вынік -- аддае частку свайго насельніцтва ў выглядзе мігрантаў Расіі, Украіне, Прыбалтыцы. Беларусы едуць у ЗША, Канаду, Аргенціну, іншыя краіны. Гэта была арганізаваная і неарганізаваная міграцыя, легальная і нелегальная.

Яе можна назваць знешняй. Вялікі ўплыў на дэмаграфічны малюнак нашай рэспублікі зрабіла і ўнутраная міграцыя насельніцтва. Калі да другой сусветнай вайны Беларусь у аснове сваёй была аграрна-сялянскай,-- з адпаведным укладам жыцця, сацыяльнай структурай, культурай, веравызнаннем, -- то пасля вайны яе аблічча рэзка мяняецца. Беларусь становіцца рэспублікай з магутным прамыслова-індустрыяльным патэнцыялам. Ствараецца ён у асноўным за кошт сваёй рабочай сілы. У адрозненне, скажам, ад Прыбалтыкі. І чэрпалі яе з вёскі. Узнік вялікі міграцыйны паток на лініі "сяло-горад". З вёскі выехалі дзесяткі тысяч чалавек. У асноўным моладзь. Адбылося, вобразна кажучы, вялікае перасяленне. Таму беларускія гарады ў аснове сваёй сялянскія. Такі хуткі эвалюцыйны пераход перажыла толькі Японія. Дарэчы, і пачыналі мы прыкладна ў адных і тых жа ўмовах, у адзін і той жа час -- пасляваенны перыяд, для якога характэрна дамінуючая колькасць сельскага насельніцтва, бедная рэсурсная база. І выйшлі з яго прыкладна з такімі ж набыткамі -- маем сваю навуку, высокаадукаваныя інжынерна-тэхнічныя кадры, добра развіты прамысловы комплекс.

***-- Унутраная міграцыя адыгрывае вельмі важную ролю ў фарміраванні і рассяленні насельніцтва Беларусі. Акрамя таго, яна цесным чынам звязана з урбанізацыяй -- бічом дваццатага стагоддзя. Як гэта праявілася на прыкладзе беларускіх гарадоў?***

-- Лепш за ўсё гэта можна прасачыць на прыкладзе сталіцы -- Мінска. За пасляваенны перыяд у выніку міграцыі ў яго перасялілася каля 1 мільёна жыхароў. Амаль 8 мігрантаў з 10 -- выхадцы з вёскі, кожны другі -- з бліжэйшых раёнаў Мінскай вобласці. Гэта новая рыса для Мінска. У мінулым яго насельніцтва фарміравалі некарэнныя этнічныя групы.

Практычна ўсе гарады Беларусі, а Мінскай вобласці -- у першую чаргу, таксама аддаюць частку свайго насельніцтва сталіцы. Мігранты з іншых рэспублік складаюць менш за 10 працэнтаў прыросту. Гэта ў асноўным жыхары прыгранічных тэрыторый. Ёсць прадстаўнікі Сібіры, Далёкага Усходу, Казахстана. Адны прыбываюць у Мінск на работу і пастаяннае месца жыхарства, другія -- на вучобу. Апошнія праз пэўны час пакідаюць Мінск. Таму рэгуляванне насельніцтва горада звязана з рэгуляваннем не толькі вытворчасці, але і сістэмы падрыхтоўкі кадраў. У гэтым сэнсе Мінск мог бы абысціся без многіх навучальных устаноў, якія з поспехам можна размясціць у іншых гарадах, знізіўшы такім чынам міграцыйны "ціск" на сталіцу.

Сёння эканамічная абстаноўка ў рэспубліцы складваецца такая, што неабходна мець прадуманую даўгачасную канцэпцыю развіцця насельніцтва, якая прадугледжвала б рэгуляванне росту населеных пунктаў усіх існуючых тыпаў. Прыкладам магло б паслужыць рэгуляванне росту Мінска шляхам пераразмеркавання эканамічнай "нагрузкі" на такія гарады, як Жодзіна, Барысаў, Мар'іна Горка, Маладзечна, Дзяржынск, Фаніпаль, Стоўбцы і інш. Роля іх у эканамічных адносінах за апошні час значна ўзрасла. Калі так будзе працягвацца далей, то працэс урбанізацыі сталіцы істотна замарудзіцца.

Характэрна, што падобная з'ява назіраецца ў Гомелі, Віцебску, Магілёве, іншых буйных гарадах рэспублікі.

***-- Якія дэмаграфічныя змены выклікала аварыя на Чарнобыльскай АЭС?***

-- Горка ўсведамляць, што Беларусь -- бадай, першая рэспубліка ў свеце, дзе, відаць, надоўга прыжылося словазлучэнне "экалагічныя бежанцы". Людзям даводзіцца пакідаць абжытыя месцы літаральна ў чым стаяць. У цэлым чарнобыльская аварыя выклікала неардынарныя змены ў структуры насельніцтва. Спачатку людскі паток закрануў бліжэйшыя да аварыі раёны. Потым стаў распаўсюджвацца на суседнія і аддаленыя. У рэспубліцы з'явіліся зоны, дзе амаль не засталося людзей. У далейшым гэты працэс перайшоў за рамкі Гомельскай і Магілёўскай абласцей, і паток перасяленцаў хлынуў у цэнтральныя, заходнія і паўночныя раёны. У першы ж год пасля аварыі было эвакуіравана 25 тысяч жыхароў з больш чым ста населеных пунктаў. Гэтае вымушанае адсяленне людзей з месц радыеактыўнага забруджвання назвалі "экалагічнай дэпартацыяй". Упершыню ў гісторыі беларускага народа многія тэрыторыі становяцца непрыгоднымі для жыцця і гаспадарання, што адбілася на маральна-псіхалагічным настроі людзей. Не кожны жадае пакідаць родныя мясціны, нават калі там небяспечна жыць. Да таго ж, людзей не заўсёды задавальняюць умовы ў тых месцах, куды іх адсяляюць.

Такім чынам, праблем узнікла вельмі і вельмі многа. У цэлым жа чарнобыльская катастрофа -- гэта не толькі небывалая тэхнічная аварыя, надзвычайная экалагічная сітуацыя. Нам выпала чарговае сур'ёзнае выпрабаванне. Рэспубліка стаіць перад вырашэннем складаных задач, якія закранаюць усе сферы жыцця.

***-- Істотнай прыкметай нашага часу стала не толькі перамяшчэнне людскіх патокаў унутры рэспублікі. Многія мігрыруюць за яе межы. Чым адметны гэты працэс?***

-- На вялікі жаль, даводзіцца канстатаваць, што эміграцыя ў рэспубліцы набывае масавы характар. Напрыклад, калі ў 1987 годзе з Беларусі выехала менш тысячы чалавек, то ў 1990-м яна склала ўжо звыш 30 тысяч. І гэты працэс не спыніўся. Чаму людзі мяняюць месца жыхарства? Прычыны розныя: як экалагічныя, так і сацыяльна-эканамічныя, палітычныя, нацыянальныя, рэлігійныя. Яны напластоўваліся даўно, і дастаткова было змяніцца палітычнай абстаноўцы ў краіне, каб людзі пачалі выязджаць за мяжу. Эпіцэнтрамі беларускай эміграцыі сталі гарады Мінск, Гомель, Магілёў, Віцебск. Наогул, трэба адзначыць: пачатак 90-х гадоў адкрыў новую старонку ў гісторыі сусветнай эміграцыі. Дамінуючай рысай яго з'яўляецца рост эміgranцкага патоку з былых краін сацыялістычнага лагера Усходняй Еўропы, СССР. Беларусь тут не выключэнне. Гэты паток кіруе ў ЗША, Ізраіль, краіны Лацінскай Амерыкі, Заходняй Еўропы. Вядомы выпадкі эміграцыі ў Аўстралію, Новую Зеландыю.

Нельга, аднак, рабіць адназначны вывад, што эміграцыя мае толькі адмоўныя рысы. Сам факт выбару па ўласнаму жаданню месца жыхарства сведчыць аб вялікім палітычным і прававым дасягненні. З другога боку, выязджаюць у большасці сваёй кваліфікаваныя кадры, у ліку якіх педагогі, эканамісты, медыкі і іншыя. Такія страты нялёгка кампенсаваць. Усё гэта прыводзіць да думкі, што эміграцыйны паток патрабуе ўважлівага назірання і вывучэння.

***-- Як дэмаграфічныя працэсы адбіліся на сям'і?***

-- Я ўжо адзначала, што беларускія гарады ў аснове сваёй сялянскія. Такія гарады рэдка дзе сустрэнеш у свеце. Рэзкі пераход да істотна новага ўкладу жыцця -- індустрыяльны від дзейнасці, праца ў галіне навукі і адукацыі, новыя формы занятка ў прывялі да таго, што пачала мяняцца і сама сям'я. Калі, скажам, раней для беларускай сям'і была характэрная мнагадзетнасць, то сёння -- адно, двое дзяцей і ў выключных выпадках -- трое. Гэты працэс не замкнуўся на сучаснай гарадской сям'і, ён перайшоў і на сельскую. Таму што ў сваёй аснове змянілася і сельскае жыццё. Стала значна больш інтэлігенцыі, спецыялістаў з тэхнічнай адукацыяй. І, як вынік, пачала скарачацца колькасць насельніцтва. Наогул, першыя яго прыкметы назіраліся ўжо ў канцы 70-х гадоў на Віцебшчыне, потым гэтыя межы сталі пашырацца, і сёння практычна няма ніводнага раёна на Беларусі, дзе б смяротнасць не перавышала нараджальнасць. Такім чынам, мы ўжо пераступілі мяжу, за якой пачынаецца дэпапуляцыя.

Да такога становішча некаторыя народы Заходняй Еўропы ішлі два стагоддзі, нам жа аказалася дастаткова некалькіх дзесяцігоддзяў.

***-- Інакш кажучы, мы пераступілі мяжу, за якой пачынаецца выміранне нацыі. Наколькі гэта сур'ёзна і што, на вашу думку, неабходна зрабіць, каб не паўтарыць гісторыю тых народаў, пра якія згадваюць сёння ў прошлым часе?***

-- Мяне хвалюе і засмучае тое, што дэмаграфічныя працэсы ў рэспубліцы ідуць бесконтрольна. Мы выпусцілі з рук разумнае рэгуляванне працэсу ўзнаўлення насельніцтва. Ва ўсім свеце праводзіцца спецыяльная дэмаграфічная палітыка. І калі дзяржава бачыць, што развіццё насельніцтва ідзе не ў пажаданы бок, то яна прымае неабходныя меры. Напрыклад, афрыканскія і азіяцкія краіны імкнуцца стрымаць тэмпы росту насельніцтва. Робячы пры гэтым усё магчымае і немагчымае, нават антыгуманнае. Другія, напрыклад, высокаразвітыя краіны Заходняй Еўропы, якія зараз перажываюць стадыю дэпапуляцыі, імкнуцца абнавіць пакаленні, разумеючы, што толькі так можна выратаваць нацыю.

У нашым жа становішчы дастаткова толькі таго, каб у сем'ях было па трое дзяцей. І нацыя амалодзіцца, выжыве. А для гэтага неабходна канкрэтная дзяржаўная праграма, якая б усебакова падтрымлівала, заахвочвала, стварала адпаведныя сацыяльна-эканамічныя ўмовы для маладых сем'яў. У нас жа, на вялікі жаль, нічога падобнага не робіцца.

Возьмем такі прыклад. Зараз назіраецца рост студэнцкіх шлюбаў. У дэмаграфічных адносінах з'ява для нашай рэспублікі новая. Але каго цікавіць, у якіх умовах жыве студэнцкая сям'я? Якая ў яе матэрыяльная база? Памятаеце праграму "Жыллё да 2000 года"? Добра ведаю, якую надзею ўскладалі на яе маладыя сем'і. А зараз пра гэтую праграму ніхто не ўспамінае. І, наколькі мне вядома, аб дзяржаўным будаўніцтве жылля наогул ніякай гаворкі не ідзе. А ўзвесці дом індывідуальным спосабам для маладой сям'і не па кішэні. Вось і паўстае перад ёю пытанне: колькі дзяцей заводзіць -- адно, двое ці наогул заставацца бяздзетнай? А гэта менавіта тая сацыяльная група, якая здольная даць жыццё новым пакаленням.

Я ўсё ж не імкнуся залішне драматызаваць сітуацыю. Той факт, што мы сталі самастойнай дзяржавай, дае падставу верыць у лепшае будучае нашай нацыі.

***-- Ці не таму ўступ да сваёй кнігі вы заканчваеце словамі: "Вось вам, дарагія суайчыннікі, плён маёй працы, бярыце яго, карыстайцеся і не забудзьце прадоўжыць у наступныя гады".***

-- Мне б вельмі хацелася, каб будучыя пакаленні ведалі, як выглядала геаграфія насельніцтва Беларусі апошніх дзесяцігоддзяў нашага такога неспакойнага і турботнага веку. Адно засмучае: кніжка выйшла надта сціплым тыражом -- крыху больш дзвюх тысяч экземпляраў. Буду рада, калі мая праца дасць штуршок для новых дэмаграфічных даследаванняў, знойдзе прадаўжальнікаў.

***-- Дзякуй за гутарку.***

*Гутарыў Мікалай ЖУЧКО.*

---

Твои герои, Беларусь

**В совхозе "Волма", что неподалеку от Минска, живет Александр Александрович Хомяков. Всю жизнь трудился. Теперь на пенсии. В годы войны был разведчиком 210-го стрелкового полка 82-й Ярцевской дивизии.**

# В бой шли разведчики...

Помнит старый солдат всех своих побратимов. Многих унесло с собой военное лихолетье, а других, увы, время. Неумолимое, вечно шагающее с нами. Оно и унесло несколько лет назад Сергея Ивановича Ляшко, бывшего механизатора из деревни Плиса Смолевичского района.

Александр Александрович помнит, как пришел к ним во взвод Сережка. Было это летом сорок четвертого. Пришел он из партизанского отряда. Лихим парнем был и отчаянным. В одном из боев, уже в Польше, Сергея спас от неминуемой гибели Виталька Чеботарев.

Виталий Дмитриевич теперь живет в Москве. Душа и любимец взвода. Большой храбрости был солдат.

И Иван Бывших. Сибиряк. Крепкий мужик. Ребята его особенно берегли. Немецкий знал. Для захваченных "языков" -- находка. С испугу, прямо на месте и разговорятся. И сразу твердят одно и то же: "Гитлер капут". Понятно, что "капут". Но не сразу. До разгрома фашистов надо было дойти.

Сережу Петялина они похоронили в поселке Елизово Осиповичского района. Ему не было и девятнадцати. Немного их осталось в живых, почти всех забрала с собой война.

А погиб Сергей геройски: прикрывая отход группы захвата /те тащили на себе двух раненных фрицев/, он вступил в бой с большой группой фашистских солдат... Когда прибежали на помощь, увидели растерзанное тело Сергея. Вокруг него насчитали 22 трупа немцев. Диск автомата был пуст. Видать, кончились патроны -- и он подорвал себя и нескольких немцев последней гранатой.

Героя ему дали посмертно, уже в сорок пятом. Ведь казенные бумаги только сверху быстро идут, а если снизу -- то долго...

Однажды дивизионные разведчики установили -- противник готовит взрыв моста через Березину в районе местечка Свислочь и поселка Елизово. Приказ не допустить взрыва мостов получил командир взвода разведроты дивизии старший сержант Александр Матросов. У двух Героев, двух Александров Матросовых -- разные отчества.

Отечество -- одно.

Они шли защищать его, готовые пожертвовать жизнью. Один из них, по отчеству Матвеевич, погиб геройски. Другой -- Алексеевич -- прошел всю войну, отважно сражаясь. Один шагнул в бессмертие, другой шагал дорогами войны, приближая ее неминуемый конец.

Матросов отобрал из разведчиков 17 человек... Воины скрытно пересекли передний край, зашли в тыл врага и взяли "языка". Пленный рассказал об охране мостов. Разведчики бесшумно сняли часовых, потом обезоружили спавших гитлеровцев из охраны. Заняли оборону и стали ждать "гостей". В течение семи часов фашисты группами по 50--60 человек девять раз атаковали разведчиков и откатывались с потерями. Враг на Минск так и не прошел.

Так до подхода главных сил группа Матросова обороняла два моста. За этот подвиг А.А.Матросов стал кавалером "Золотой Звезды", а его разведчики награждены орденами Ленина и Красного Знамени. В том бою геройски пали комсорг роты И.Бондаренко и солдат-коммунист М.Кармалитов.

Коль уж мы заговорили о героях 82-й Ярцевской, то вспомним о старшем лейтенанте Д.П.Григорьеве из 250-го полка. Кстати, ребята, которые на войне вдосталь наелись партизанского "хлеба", были смелыми и смекалистыми бойцами. Так вот, Дмитрию Павловичу выпало почти два года сражаться в рядах народных мстителей. Он слыл в дивизии мастером дерзких рейдов в тыл врага, умел захватывать переправы и стойко держать важные перекрестки дорог...

82-я Минск обошла, как говорят, стороной, не те были задачи, а Григорьев с автоматчиками побывал и там.

Дело было так. Выполняя приказ командарма 3-й генерала А.В.Горбатова, рота автоматчиков, посаженная на броню 20 самоходных артиллерийских установок, проникла в тыл врага и 28 июня, перехватив шоссе Минск--Барановичи, парализовала движение войск противника, как говорится, и туда, и обратно.

На рассвете 3 июля бойцы Григорьева неожиданно ворвались на станцию Минск-Товарная с запада. Они захватили три эшелона с вооружением, два -- с боеприпасами и эшелон с мирными гражданами, которых гитлеровцы пытались отправить в Германию.

Д.П.Григорьев за те славные дела был удостоен звания Героя Советского Союза, а все участники рейда были награждены орденами и медалями.

Судьба Михаила Кудачкина схожа с биографиями других его сверстников. 22 июня 41-го выпускной вечер. Последний школьный бал. Потом военное училище. Младший лейтенант М.Ф.Кудачкин пришел в дивизию в 1942 году, а летом сорок четвертого уже командовал батальоном. Кстати, в апреле 1945-го он первым в дивизии вышел на окраину Берлина. Ворвавшись в крепость Шпандау, батальон дал возможность другим частям наступать к центру вражьей столицы. Подвиг капитана М.Ф.Кудачкина был отмечен высшей степенью отличия. Но как говорит поэт: "Смертный бой не ради славы, ради жизни на земле..."

Так оно было. Меняются цифры, стираются даты, но в памяти ветеранов они -- вечно шагающие со своими однополчанами.

Вместе с разведчиками на задание всегда ходили саперы. Как-то, еще в начале сорок четвертого, к ним "прибился" из саперного батальона лейтенант Глеб Гридасов. Интересный был парень и дело свое знал. В одном из боев при освобождении белорусской земли он был ранен. Лежал в госпитале в Минске. Но рвался на фронт и, не долечившись, "догнал" разведчиков уже в Польше. Там и сложил свою голову в боях за город Мыслибуж /немцы его называли Зольдин/. Вместе с ним погибли разведчики сержант Николай Прокопов и рядовой Константин Петряну. Смелые были ребята. Как говорят старые люди: "Царствие им небесное!"

Идут годы. Скоро мы отметим 50 лет с того дня, когда прогремел последний выстрел в освобожденном от врага Минске. Тем, кому выпало жить, встречаясь, вспоминают о павших... Живые по ночам шепчут имена погибших побратимов.

А когда встречаются ветераны.... Передать тот момент, когда они, увидев друг друга за долгие годы разлуки, скорее всего невозможно. Это надо видеть. Ведь они причастны славе, принятой в бою.

*А. АНИСИМОВ.*

**На снимке:** бывшие разведчики 82-й Ярцевской стрелковой дивизии в гостях у генерал-полковника **М.П.Дмитриева**, прошедшего через пять войн: **А.А.Хомяков** /справа/ и **С.И.Ляшко.** 1973 год.

*Фото автора.*

---

Мінская хроніка

### Абстаноўка стабілізуецца

Упраўленне ўнутраных спраў Мінгарвыканкома падвяло вынікі спецаперацый "Аграрнік", "Траса", "Правапарадак" і "Вакзал", якія праводзіліся ў другой палове сакавіка. За гэты час у сталіцы раскрыта 257 злачынстваў, у тым ліку 66 цяжкіх, выяўлена 127 эканамічных злоўжыванняў і г.д. Як паведаміла прэс-служба УУС гарвыканкома, пасля правядзення гэтых акцый аператыўная абстаноўка ў Мінску значна стабілізавалася.

### Фестываль прычосак

Фестываль прычосак пройдзе ў Мінску з 14 па 16 красавіка. Нямецкая фірма "Лонда" разам з беларускімі цырульнікамі зрабіла ўсё, каб парадаваць жанчын, паднесці ім цудоўны веснавы падарунак. У апошні дзень фестывалю ў Палацы культуры чыгуначнікаў адбудзецца шоу-прадстаўленне з удзелам вядомых цырульнікаў-мадэльераў і эстрадных артыстаў. Будзе наладжана кансультацыя прафесійных касметолагаў-цырульнікаў, паказ розных мадэлей прычосак, арганізавана латарэя. Тут жа можна будзе набыць прэпараты фірмы "Лонда", якія ў гэтыя дні прадаюцца і ў буйнейшых магазінах Мінска.

### Для аматараў песні

Клуб творчай інтэлігенцыі сталіцы "Сустрэчы на ростанях" вырашыў выступіць у новым амплуа. Калі да нядаўняга часу ён радаваў мінчан кінапрэм'ерамі і сустрэчамі са славутасцямі айчыннага і замежнага экрана, то цяпер вырашыў правесці свята песні. Як паведаміў Белінфарм, 14 і 15 красавіка аматары песеннага жанру змогуць цудоўна правесці час у цэнтральным Доме афіцэраў. Тут пройдуць "Вечары вакальнага мастацтва".

### Прапануюць нават самалёты

Міжнародны універсальны кірмаш "Меркурый-94" праходзіць у гэтыя дні ў памяшканні "Белдзяржпраекта" па праспекце Машэрава, 21. У ім прымаюць удзел каля сямідзесяці фірм з адзінаццаці краін. Яны прапануюць тавары народнага спажывання, станкі, сельгасмашыны, прадукцыю бытавой хіміі і многае іншае. Адна з амерыканскіх фірм выстаўляе на продаж, праўда,у чарцяжах і праспекце, легкакрылыя самалёты.

### Тралейбус мяняе маршрут

З 18 красавіка шэраг тралейбусных маршрутаў Мінска скарачаюць свой "дыяпазон дзеяння". Гэта асабліва датычыць тых тралейбусаў, якія выходзілі на праспект Скарыны. Маршрут N1 ад "Зялёнага Луга-7" будзе праходзіць толькі да станцыі метро "Маскоўская", а N2 -- ад Калінoўскага да плошчы імя Якуба Коласа. Зменены маршруты 18-га і 43-га тралейбусаў. Першы будзе курсіраваць ад Аэрапорта-1 да чыгуначнага вакзала, а другі -- ад дыспетчарскай станцыі "Сярова" да станцыі метро "Інстытут культуры".

Зменены шэраг аўтобусных і трамвайных маршрутаў.

*Падрыхтаваў Павел ЖУРБА.*

---

# МОСКВА-74: СВИДАНИЕ С МОНОЙ ЛИЗОЙ

**Эту шифровку из Парижа приняли в Москве в один из майских дней 1974 года. Вечером она была доложена министру иностранных дел СССР А. Громыко. На следующее утро при встрече руководителя МИД СССР с председателем Совета Министров А. Косыгиным в числе других вопросов обсуждалась и та шифровка. Несколько позже Косыгин проинформировал Л. Брежнева о сообщении из столицы Франции...**

**Речь шла всего лишь... о картине художника. Но какая картина и какого художника! Ни много ни мало — шедевр Леонардо да Винчи «Джоконда» [«Мона Лиза»]. Посол СССР во Франции С. Червоненко сообщал в шифровке, что эта картина с выставки в Токио будет в первой половине июня возвращаться под усиленной охраной в Париж, в Лувр. Самолет с драгоценным грузом произведет посадку в Москве для дозаправки. Посол предлагал использовать уникальный шанс и, по согласованию с французским правительством, выставить на какое-то время «Джоконду» в Москве, в одном из музеев...**

В свое время Франция приняла решение о том, что эта феноменальная картина не должна вывозиться за пределы страны. Лишь дважды по специальному разрешению французских властей она совершала официальное путешествие за границу — в США и Токио. И вот посол предлагал использовать шанс для нашей страны.

Был здесь и резон чисто дипломатический. Во Франции в это время после смерти Жоржа Помпиду главой государства стал 48-летний Валери Жискар Д'Эстен. Весьма выигрышным моментом для налаживания с ним дружеских отношений и могла стать эта благородная акция...

Вот почему шифровке из Парижа было уделено такое большое внимание. А срочность, с которой докладывался этот документ, объяснялась тем, что до отправки картины из Токио оставалось совсем мало времени.

### ЛИЧНОЕ ПОРУЧЕНИЕ КОСЫГИНА

Французское правительство и лично президент Жискар Д'Эстен не возражали показать картину в Москве, но окончательное решение должны были принять специалисты Луврского музея. Они выдвинули весьма жесткие требования, касающиеся сохранности шедевра, создания и постоянного поддержания микроклимата, в котором должна находиться картина. Даже шум, звуковые колебания не должны доноситься до нее. И, конечно же, Советское государство обязано было дать стопроцентную гарантию того, что картину невозможно будет похитить или нанести ей повреждения.

**А такое в долгой истории «Джоконды», к сожалению, было. В 1911 году рабочий-маляр похитил знаменитый портрет из Лувра. Это был вселенский скандал. Позже «Мону Лизу» обнаружили в Италии. В 1913 году шедевр был возвращен в Лувр. Были и другие «покушения». Однажды один из маньяков совершил акт вандализма, залив часть картины чернилами. Реставраторам пришлось немало потрудиться...**

Вопрос, словом, был настолько серьезным, что им занимался лично Алексей Косыгин. Он вызвал в Кремль министра среднего машиностроения Е. Славского, министра культуры Е. Фурцеву и поручил им обеспечить выполнение всех требований французов...

Вызов в Кремль министра культуры был понятен, но почему Косыгин обратился еще и к руководителю могущественной «империи внутри советской империи», как называли Минсредмаш? Посвященные знали, что это министерство занималось разработкой и созданием грозного атомного оружия. Атомные бомбы и картина великого Леонардо — что общего? А дело было в том, что именно в Средмаше была мощная секретная организация по разработке и изготовлению надежной охранно-защитной техники, уникальных систем сигнализации и скрытого наблюдения. Эта техника охраняла атомные объекты — главнейшие секреты страны. Вот почему Косыгин поручил Славскому позаботиться о стопроцентной безопасности «Моны Лизы».

### «ЕСЛИ ПОПРОСЯТ, ДАЙТЕ АТОМНУЮ ПОДЛОДКУ»

Трудность заключалась и в том, что на всю подготовительную работу отводилось десять дней — столько оставалось до отправки картины из Токио. Конструкторско - технологическая проработка задания на изготовление особого термостабилизированного контейнера для «Джоконды» показала, что потребуется три месяца работы. Столько же времени ушло на создание специального контейнера для картины и у японских специалистов. Правда, более жесткий график работ мог бы сократить срок до двух с половиной, двух месяцев... Но не до десяти же дней!

Явление Джоконды Москве было поставлено под сомнение. Косыгин на заседании правительства потребовал, чтобы все заказы из Средмаша, касающиеся контейнера, выполнялись немедленно, без обсуждений, под личную ответственность министров. «А если попросят атомную подлодку,— тоже дать?» — съязвил кто-то из присутствовавших. «Да, немедленно дать подлодку,— жестко ответил Косыгин,— а потом будем разбираться, зачем она им потребовалась... Задание должно быть выполнено в срок».

Огромное государственное колесо закрутилось, набирая обороты. Порой компетенции министров недоставало для решения возникавших проблем. Одна из них — изготовление пуленепробиваемых стекол особой толщины на заводе в Донбассе. Для этого необходимо было приостановить там выполнение государственного заказа, перейти на уникальную технологию, сорвать графики выпуска серийных изделий. Обратились к Косыгину. И он дал срочное распоряжение, подчеркнув, что речь — об ответственном правительственном задании.

Были задействованы различные заводы и организации. Руководил работами Евгений Мишин, бывший в то время начальником отдела центрального аппарата Минсредмаша. Непосредственным изготовлением термостабилизированного контейнера занимались на заводе «Молния». Вадим Михайлович Виноградов, который был в то время главным конструктором СКБ, вспоминает:

**— Мы работали круглые сутки, без выходных. Технологический цикл был сокращен до предела. Чертежи делали от руки и, минуя чертежный зал, доставляли их в цех. Какие-то вещи объясняли рабочим «на пальцах». Решения надо было принимать порой нетрадиционные, причем быстро и без ошибок (на переделку времени не было).**

**Когда контейнер из нержавеющей стали собрали, встал вопрос: как его поставить в вертикальное положение? Лежит на боку такая четырехтонная махина вроде огромного шкафа — основание два с половиной на полтора метра, высота — три с половиной. В одной из стенок — двойные толстенные стекла. Малейший перекос — и стекло может лопнуть. Но нашли выход: поднимали контейнер постепенно, подкладывая с одного конца специальные подушки и надувая их...**

**Словом, за семь дней и ночей сделали то, на что в «нормальных» условиях должно было уйти три месяца.**

**— Каждое стекло весило сто шестьдесят килограммов, — добавляет Петр Николаевич Литвинов, бывший в то время заместителем главного конструктора. — Транспортировать их можно было только в вертикальном или наклонном положении. Отправили за ними спецсамолет в Донбасс, да не какой-нибудь, а могучий «Антей», тогда один из самых больших в мире. Вскоре встречали его в московском аэропорту...**

Массивный контейнер — сложное техническое сооружение — был предназначен для небольшого портрета (77 на 53 сантиметра), написанного Леонардо да Винчи маслом не на холсте, а на дереве. Почтенный возраст картины требовал особых условий, микроклимата, к которому привыкла «Джоконда».

— Внутри термостатической кабины,— рассказывает Евгений Трофимович Мишин,— поддерживалась постоянная температура — 20 градусов (плюс — минус один градус), влажность — 50 процентов (плюс—минус два процента). Специальная система обеспечивала освещенность 200 люкс, но не допускала попадания на картину инфракрасных лучей. Конструкция гасила любой реально возможный шум, вплоть до 40 децибеллов, ибо звуковые волны могли неблагоприятно воздействовать на краску. Телекамера, микроволновые датчики и другие технические средства обеспечивали безопасность (в соседней комнате днем и ночью находилась охрана). 13 июня все работы по установке кабины в Музее изобразительных искусств, монтажу систем термостабилизации, охранной сигнализации были завершены. А 14 июня из аэропорта Внуково в сопровождении большой охраны была доставлена бесподобная «Мона Лиза»...

### ОЧЕРЕДЬ ЗАНИМАЛИ С НОЧИ

**«И ты, живописец,— писал Леонардо да Винчи в одной из своих знаменитых тетрадей,— учись делать свои произведения так, чтобы они привлекали к себе зрителей и удерживали их великим удивлением и наслаждением, а не привлекали бы их и потом прогоняли, как это делает воздух с тем, кто ночью выскакивает голым из постели, чтобы посмотреть, какова погода — пасмурная или ясная, и тотчас же, гонимый холодом, возвращается в постель, откуда только что поднялся; но делай произведения свои похожими на свежую струю воздуха, которая в жару извлекает людей из их постелей и удерживает их наслаждением подышать летней прохладой...»**

Контейнер с картиной был вмонтирован в стену таким образом, что зрители видели только освещенную «Джоконду». Очередь в Музей имени А. С. Пушкина занимали с ночи. Люди медленно шли непрерывным потоком (останавливаться у картины не разрешалось), и так продолжалось все 44 дня, пока «Мона Лиза» была в музее.

29 июля французские специалисты открыли заднюю дверь кабины, бережно вынули картину и поместили ее в другой — транспортный контейнер. Он состоял из нескольких вставленных друг в друга металлических ящиков (по принципу русской матрешки). Этот герметический транспортный контейнер не горел в огне и не мог утонуть в океане. Даже если бы он выпал из самолета или самолет потерпел бы катастрофу на суше,— картина, в которую влюблен весь мир, все равно осталась бы целой. Специальные демпферы создавали мощную противоударную защиту. В таком «домике» «Джоконда» летела из Токио в Москву, а потом из Москвы — в Париж...

**Виталий ГОЛОВАЧЕВ.**

*"Труд"*

**Калонка з працягам**



*Віктар НЕСЦЯРОВІЧ*

# МЫ РОДАМ З ВАЙНЫ

***Мы, прадстаўнікі сярэдняга пакалення ці блізкія да старэйшага, не маглі быць удзельнікамі вайны. Па малалетняму на той час узросту. Але на вайне, хто перажыў акупацыю, пабывалі. Мне самому, як і маім братам і сёстрам, большасці дружбакоў ваеннага часу пашанцавала — смерць абышла нас. Але ж за тыя змрочныя гады столькі давялося перажыць! І памяць падказала ўзяцца за пяро, каб падзяліцца ўспамінамі.***

***Прадбачу пытанне: якія могуць быць успаміны ў таго, каму ў вайну было гадоў дзесяць-дванаццаць? І тым не менш, калі схіляўся над чыстымі аркушамі паперы, былое з майго ваеннага маленства ажывала, нібы на кінаэкране.***

## Першае бежанства

У той час сям"я наша жыла ў вёсцы Жарамец, што за пятнаццаць кіламетраў на захад ад Беразіно. Ляжала вёска ў прыгожай мясціне, а хата наша — леснічоўка — пры самым лесе, побач з рачулкай.

Дзень той выдаўся на дзіва сонечны, яркі. Недзе апоўдні пачулі мы жахлівую вестку — вайна! Да нас, малых, не адразу дайшоў сэнс, які несла ў сабе гэтае слова. Было толькі адчуванне, што здарылася штосьці непапраўна страшнае. Але па-ранейшаму ярка свяціла чэрвеньскае сонца, па-ранейшаму цвіў мак у агародзе і несла свае воды Жорнаўка, дзе мы любілі лавіць лазовымі кошыкамі печкуроў.

Аўтамашыны былі ў той час рэдкасцю на нашай дарозе. А тут раптам пачалі праносіцца запыленыя грузавікі адзін за адным. У кузавах — чырвонаармейцы ў касках, з вінтоўкамі ў руках. Мы, дзеці, выбягалі за кожным разам на дарогу, пачуўшы гудзенне аўтамабіля. І яшчэ запомнілася: каля драўлянага моста цераз рачулку — вайсковец на ўзмыленым кані. Не радавы, а камандзір, галава забінтаваная, і на запыленых бінтах — крывавыя плямы. Гэта было ўжо рэальнае адчуванне вайны, што насоўвалася з захаду.

А калі на зямлю апускаўся густы вечаровы змрок, з трывогай углядаліся ў неба на захадзе. На ім над самым гарызонтам былі добра відаць далёкія бляклыя сполахі-водсветы. Нам сказалі, што водсветы гэтыя — ад пажараў у Мінску. У вечаровай цішы чулі, нібыта з падзямелля, глухія раскаты. Гэта быў не гром, а ўзрывы бомбаў, якія падалі на Мінск.

Недзе на другі дзень вайны ў нашай вёсцы знайшлі кароткі прыпынак людзі, што вырваліся з палаючага Мінска і прайшлі пехатой пад гарачым сонцам каля сотні кіламетраў. Пажылы яўрэй узрушана расказваў пра тое, як іх абстрэльвалі на Магілёўскай шашы нямецкія самалёты, як гінулі ад куль знясіленыя людзі.

А потым на дарозе, што ішла паралельна Магілёўскай шашы, з"явіліся нашы адступаючыя пехацінцы. З перасохлымі ад смагі губамі, стомленыя, яны раз-пораз забягалі ў нашу хату з адной просьбай: "Дайце папіць". І мы напаўнялі халоднай, са студні вадой вёдры, выносілі іх на дарогу і паілі байцоў.

На нашым агародзе і каля лазні чырвонаармейцы аднаго разу пачалі рыць акопы і ўстанавілі тут зенітныя кулямёты. Камандзір растлумачыў бацьку, што фашысты могуць бамбіць мост. І было б лепей, каб на гэты час сям"я выбралася ў бяспечнае месца. Бацька не стаў марудзіць, сабраў усё вялікае сямейства /нас у бацькоў было на той час сямёра дзяцей/, запрог каня... Спыніліся невялікім табарам на ўскрайку лесу. Перасцярога аказалася недарэмнай. Прайшла гадзіна-другая, і раптам пачулі мы ў небе нарастаючы гул. Сумненняў не было: ляцеў самалёт — не наш, нямецкі. Пачуўся страшэнны пранізлівы гук, зямлю скаланулі магутныя выбухі. Мне ў той час здалося, што неба абрушылася на зямлю.

Калі ўсё сціхла, мы вярнуліся з "бежанства". Хата, на шчасце, аказалася цэлая, толькі некалькі шыбаў ад выбухаў лопнулі. Мы са старэйшым братам Паўлам ды суседскімі хлопцамі-дружбакамі /разам з намі ў леснічоўцы жыла сям"я лесніка/ хутчэй падаліся ў лес. Зусім блізка адна ад другой былі тры глыбокія варонкі, а побач з імі ляжалі вывернутыя ўзрывамі тоўстыя елкі. Пазней ужо, пад восень, елкі тыя пайшлі на дровы. І калі пілавалі тоўстыя ствалы, зуб"е пілы скрыгатала па сталёвых асколках.

## Прыпіснік Федзя

Бацька рэдка заставаўся дома, некуды падоўгу знікаў. Ад старэйшага брата я даведаўся, што ён сустракаецца ў лесе з камандзірамі-акружэнцамі і нейкім чынам дапамагае ім.

А ў сям"і нашай з"явіўся пастаялец — лейтэнант Фёдар Ляўчышын. Жыў ён на правах прыпісніка. Такі статус набывалі з дазволу акупацыйных улад тыя з акружэнцаў, каго мясцовыя жыхары бралі ў свае сем"і як бы на правах жыльцоў і памочнікаў па гаспадарцы. Становішча "прыпіснікоў", канешне, было няпэўнае. Была ў іх трывога, што немцы могуць у любы час забраць іх і кінуць у лагер ваеннапалонных.

Вечарамі, перад сном, а спалі мы тады ў пуні на духмяным сене, Федзя спяваў украінскія песні, успамінаў сваю Палтаўшчыну. Расказваў пра жорсткі бой пад Баранавічамі, дзе ён пазбегнуў акружэння, як адступаў на ўсход, пакуль не трапіў сюды.

Аўтарытэт Федзі вельмі вырас у вачах нашай сям"і пасля аднаго выпадку, які мог бы стаць трагічным, калі б ён не праявіў смеласць і вытрымку. Недзе ў жніўні, калі ўсталявалася акупацыйная ўлада, у нашу хату ўварваліся немцы. Быў з імі і староста, якога паспелі ўжо прызначыць новыя "гаспадары". Пачаўся вобыск. Немцы ўсё дапытвалі: "Камуністышэн папір". Патрабавалі, каб бацька паказаў ім сваю партыйную дакументацыю /ён быў перад вайной сакратаром сельсавецкай партячэйкі/. Уздзіралі ў хаце падлогу, паролі штыкамі, заглядвалі на гарышча. Але дарэмна: бацька, стары чэкіст, паспеў прыняць меры. Частку дакументацыі спаліў у грубцы, астатнюю разам з палітычнай літаратурай, якую ён атрымліваў у якасці прэміі, паклаўшы ў драўляную скрыню, закапаў на беразе рачулкі.

Так і не знайшоўшы тых "камуністышэн папір", немцы арыштавалі яго і павялі з сабой у суседнюю вёску Лагі. Маці галасіла, пачала прасіць Федзю, каб дапамог выручыць. І той выправіўся ўслед за немцамі. Прайшло некалькі гадзін у трывожным чаканні: "Хто мог выдаць немцам бацьку? Што з ім будзе?" І ўжо пад самы вечар з"явіліся яны абодва. Выратавала тое, што Федзя мог добра размаўляць па-нямецку /ён меў настаўніцкую спецыяльнасць/. Выклікаў да сябе давер з боку немцаў і пераканаў іх, што бацька стаў партыйцам толькі дзеля таго, каб прабіцца па службе, каб лягчэй было ўтрымліваць вялікую сям"ю.

## Бацькоўскі тайнік

Невядома, як склаўся б ваенны лёс нашай сям"і, калі б з бацькам не здарылася няшчасце, што каштавала яму жыцця. Па сваёй волі ўзяўся ён вартаваць свіран з калгасным дабром. І вартаваў надзвычай сумленна. Хаця не было б вялікага граху, калі б прывёз на санках мяшэчак для сям"і, на што не раз падбівала яго маці: "Для каго ты, Антон, стараешся, для каго беражэш? Усё роўна немцам дастанецца". Але бацькава партыйнае сумленне не магло дазволіць пайсці на такі крок.

(Працяг будзе.)

# БЕЗ ВЫТОКАЎ РЭЧАК НЕ БЫВАЕ

### З заключнага канцэрта лаўрэатаў і дыпламантаў фестывалю народнай творчасці "Спадчына"

У лістападзе мінулага года ўпраўленне культуры Мінскага гарвыканкома сумесна з Цэнтрам адраджэння і развіцця беларускай культуры прынялі рашэнне аб правядзенні фестывалю народнай творчасці горада-героя Мінска, прысвечанага 50-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Што зроблена калектывамі за гэты час? Паслухаем дырэктара Цэнтра адраджэння і развіцця беларускай культуры, заслужанага работніка культуры рэспублікі Мікалая Агароднікава:

— Ва ўсіх раёнах горада прайшлі Тыдні народнай творчасці, якія заканчваліся абавязковым канцэртам і арганізацыяй выставы вырабаў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Усяго ў такіх мерапрыемствах прынялі ўдзел 3,5 тысячы калектываў. Былі прадстаўлены ўсе жанры мастацтва. Тэматыка выступленняў — героіка-патрыятычная, дружба народаў, інтэрнацыяналізм, адраджэнне нацыянальнай культуры.

Права выступіць у заключным канцэрце фестывалю заваявалі 33 калектывы мастацкай самадзейнасці і шэсць выканаўцаў. Адбыліся ўшанаванні лаўрэатаў і дыпламантаў фестывалю народнай творчасці. Цікава, напрыклад, у Палацы культуры "Юнацтва" прайшло дывертысмент-шоу "Іх вялікасць тэатр", у якім прынялі ўдзел больш за 30 тэатральных калектываў. На такіх вечарах гучалі словы ўдзячнасці прадстаўнікам усіх жанраў мастацкай самадзейнасці.

— Складваецца ўражанне, што ў развіцці народнай творчасці вы ўжо ўзняліся на Алімп.

— Не думайце так, калі ласка. Ад выяўленых недахопаў хоць у вір з галавой кідайся. Многія культасветустановы, вобразна кажучы, дыхаюць на ладан. Калі Ленінскі, Маскоўскі, Цэнтральны раёны не "разгубілі" калектывы, узнялі іх прафесійнае майстэрства, то Савецкі раён неапраўдана здаў свае пазіцыі. Аб астатнім, калі вы не супраць, паразважаем пасля заключнага канцэрта фестывалю...

І вось ён адбыўся ў Дзяржаўным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета Рэспублікі Беларусь. Мікалая Агароднікава больш не стаў турбаваць, бо сам быў перапоўнены ўражаннямі ад убачанага і пачутага. Рэжысёр канцэрта так удала спланаваў праграму, што кожны нумар дараваў гледачам хвіліны прасветленасці, далучаў да народнага мастацтва. Яшчэ раз паверылася, што пакуль жывуць традыцыі народнай песні, народнай музыкі і танца, будзе жыць і нацыянальны характар беларускага народа, яго светлая вера ў дабро, мір і згоду на нашай зямлі. Без вытокаў рэк не бывае. І гэты канцэрт пераканаўча пацвердзіў значны рост узроўню мастацкай самадзейнасці мінчан, павышэнне майстэрства калектываў, шырокае выкарыстанне імі фальклорных матэрыялаў, вяртанне да жыцця многіх жамчужын беларускай народнай творчасці.

Час аддаляе нас ад мінулай вайны, загойвае раны, сушыць слёзы на вачах у тых, хто застаўся жыць, але яму не падуладная памяць сэрца, памяць ветэранаў, каго і сёння нярэдка будзяць па начах грымотныя залпы. Аб гэтым падумалася, калі выступалі народны ансамбль ветэранаў вайны і працы Дома ветэрана і народны хор ветэранаў вайны і працы Палаца культуры прафсаюзаў. Стройна і чыста гучалі галасы спевакоў. А песні іх аб тым, што подзвіг старэйшага пакалення стане добрай крыніцай духоўнай сілы і чысціні, школай выхавання мужнасці і любві да роднай Бацькаўшчыны. З гонарам вытрымалі экзамен і іншыя харавыя калектывы: народная харавая капэла Дома настаўніка, народны мужчынскі хор аўтазавода, узорны хор "Журавінка" СШ № 130, узорны хор "Сонейка" Палаца культуры прафсаюзаў. Яны прадэманстравалі высокую вакальную культуру.

Гаспадарамі сцэны становяцца танцоры. І яны дасканала авалодалі сваім рамяствам, змаглі глыбока і поўна адлюстраваць у сваёй творчасці дух часу, атмасферу грамадскага жыцця. Гэта ўдзельнікі студыі класічнага танца "Арабеск" Палаца культуры прафсаюзаў, народнай студыі бальнага танца "Мара" Палаца культуры Мінскага трактарнага завода, народнага тэатра танца "Карагод" Палаца культуры тонкасуконнага аб"яднання, народнага ансамбля танца "Белая Русь" Палаца культуры "Юнацтва" і інш.

Яшчэ раз пацвердзілі рэпутацыю вядучых калектываў Мінска ўзорны фальклорны інструментальны ансамбль "Дударыкі" нацыянальнай гімназіі, узорны ансамбль народнай музыкі "Гармонікі" комплексу пазашкольнай працы "Золак" Заводскага раёна, народны аркестр народных інструментаў Белдзяржуніверсітэта. Сваё арыгінальнае мастацтва падарылі гледачам артысты народнага цырка Палаца культуры і тэхнікі аўтазавода, народнага цырка Палаца культуры і спорту чыгуначнікаў. І яшчэ на адну прыемную дэталь звярну ўвагу: у маляўнічы сцэнічны вянок дружбы хораша ўпляталіся яўрэйскія песні і танцы, рускія, украінскія. Інакш і быць не павінна: мы жывём у такі час, калі прадстаўнікі кожнага народа маюць права на сваё нацыянальнае мастацтва, сваю культуру.

Але аб хвалебным досыць. Не раз прадстаўлялі самадзейнае мастацтва рэспублікі на самых адказных конкурсах і аглядах студэнты Беларускай політэхнічнай акадэміі, Беларускага педагагічнага універсітэта, Беларускага эканамічнага універсітэта, Беларускага аграрна-тэхнічнага універсітэта, Беларускага універсітэта культуры. На заключным канцэрце фестывалю яны "адмаўчаліся". А, можа, і зусім гэтыя калектывы распаліся ў вышэйшых навучальных установах? Адгукніцеся: "Дзе вы?"

*Уладзімір КОБРЫН.*



НА ЗДЫМКАХ: удзельнікі народнага ансамбля "Памяць сэрца" Дома ветэрана; народнага аркестра народных інструментаў Белдзяржуніверсітэта; узорнага ансамбля танца "Зубраня" Палаца культуры і тэхнікі Мінскага аўтазавода.

*Фота Міхаіла МІНКОВІЧА.*

*Сказка для взрослых*

# МИШКА-ГЛУПЫШКА

*Лежала на территории малоизвестного пространства рукавичка. Пробегала мимо Мышка-Норушка и смекнула: «Под жилье приспособить можно».*

*— Терем-теремок! Кто в тереме живет?*

*В ответ — молчание. Забралась она туда и получила статус на жилье.*

*Прискакала Жаба:*

*— Терем-теремок, кто твой владелец?*

*— Я — Мышка-Норушка, а ты кто?*

*— А я — Лягушка-Болтушка!*

*— Бросай болтовню на своем болоте, переходи ко мне. Я спонсором твоим буду.*

*Впрыгнула Лягушка, и стали они сожителями.*

*Прибежал Заяц:*

*— Терем-теремок! Кто здесь обитает?*

*— Я — Мышка-Норушка, и я — Лягушка-Болтушка, а ты кто?*

*— Я Зайчик — от алиментов Убегайчик.*

*— Догадываемся, что бомж, заходи.*

*И зажили они как три суверенных жильца.*

*Черти приперли Лису:*

*— Терем-теремок! Кто сюда забраться мог?*

*— Мышка-Норушка, Лягушка-Болтушка, Зайчик-Убегайчик, а ты кто?*

*— Я Лиска-Капризка.*

*— Видно, что разводная. Заселяйся. Вчетвером живут.*

*Пришел Волк из мест не столь отдаленных.*

*— Ничего хватера. Кто снимает в ней углы?*

*— Мышка-Норушка, Лягушка-Болтушка, Зайчик-Убегайчик, Лиска-Капризка.*

*— Целое СНГ! А я Волчок-Браток.*

*— Сектант, видно, коли братом называется. Заходи.*

*— Хороша общага. Давайте вывеску повесим: «Терем — молитвенный дом».*

*— «Терем — Европейский дом», — настояла Мышка-Норушка.*

*Стали впятером жить.*

*Вдруг мимо прошмыгнул известный Медведь-Грамотей, любитель больших затей. Он заранее все сказки прочитал, а «Терем-теремок» даже законспектировал. И решил мыслить по-новому.*

*— Вот это домина! Всю жизнь о таком мечтал. Кто занимает апартаменты? — зарычал Медведь.*

*— Мышка-Норушка, Лягушка-Болтушка, Зайчик-Убегайчик, Лиска-Капризка, Волчок-Браток. Давай и ты сюда.*

*Попробовал. Не входит. Рукавица — не безразмерные колготки.*

*— Давайте перестроим этот терем.*

*— Ты, Медведь, офонарел, что ли? — заорали звери. — Свой дом развалил, а теперь и на наш покушаешься.*

*«Раздавить бы их всех, как в сказке написано, — подумал Мишка. — Но нельзя террором заниматься».*

*«Заберусь в европейский дом, но цивилизованно», — решил Медведь. И войдя в раж, стал расчленять себя на части. Отрубил лапы, уши, нос, стал отсекать голову. Но ничто не влезло в рукавичку. Так из тела Мишки образовалось содружество суверенных расчлененных органов.*

*Пропищала Мышка: «Жаль, что у Мишки нет умишка».*

*Н. НИКОЛАЕВ.*

## ХАТНІ ЭКРАН

### 14 красавіка, чацвер

#### *Беларускае тэлебачанне*

16.25. "Тэль-Кацыр". Д/ф.
17.20. Гасцёўня "Тэлебома". Аляксандр Саладуха.
18.10. Абласныя навіны (Гродна).
18.25. Навіны Бі-бі-сі.
19.00. Сустрэча з генеральным дырэктарам ВА "Белкамунмаш" І.І.Сафонавым.
19.30. Музыка без межаў.
20.10. Пазіцыя ўрада.
20.25. Пяць хвілін на жарты.
20.30. Кантакт.
20.35. Калыханка.
21.00. Панарама.
21.35. Пад купалам Сусвету.
21.45. "Ніхто, акрамя цябе". Тэлесерыял.
22.30. Надвор'е.
22.40. НІКа.
22.55. Тэлевізійны арт-клуб.

#### *Канал "Астанкіна"*

16.50. Тэхнадром.
17.25. Блізкі Усход: новыя рэальнасці.
17.45, 20.35. Надвор'е.
17.50. "Пецярбургскія тайны". 3-я серыя.
18.50. Прэм'ера дак.фільма "Руская рулетка Мікіты Хрушчова". 2-я серыя.
19.40. Добрай ночы, малышы!
20.45. Лато "Мільён".
21.15. Прэзентацыя фільмаў французскага рэжысёра Л.Бунюэля.
21.30. "Дзённая прыгажуня". Маст. фільм (Францыя—Італія).
23.35. Акадэмія.

### 15 красавіка, пятніца

#### *Беларускае тэлебачанне*

8.00. Раніца рэспублікі.
8.10. Дзелавая хроніка.
8.20. Пад купалам Сусвету.
8.30. Надвор'е.
8.40. Пяць хвілін на жарты.
8.45. "Серабрысты званочак". Мультфільм.
9.00. ТБ — школе. "Мілы кут маіх дзядоў". "Новая зямля".
9.25. "Ніхто, акрамя цябе".
10.10. Карамболь. Ток-шоу з удзелам артыста Сямёна Фарады.
10.45. Мастачка Нэлі Шчасная.
11.35. Рок-айленд-шоу.
13.00. "Часцінка". Кінанарыс.
13.15. Пазіцыя ўрада. Актуальнае інтэрв'ю.
13.30. Навіны (з сурдаперакладам).
13.40. "Па дарогах "Слова аб палку Ігаравым". Д/ф.
14.15. Еўрапейскі калейдаскоп.
14.45. І Рэспубліканскі тэлевізійны фестываль юных талентаў (Брэст і Брэсцкая вобласць). Частка 1-я.
16.10. Тыдзень Ізраільскага тэлебачання.
17.10. Ансамбль танца "Шалом".
17.45. Закрыццё Тыдня Ізраільскага тэлебачання.
18.00. Дзелавая хроніка.
18.10. Абласныя навіны (Магілёў).
18.25. Навіны Бі-бі-сі.
19.00. Чарнобыль: праблемы і вырашэнні. Прымае ўдзел намеснік Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь, старшыня Дзяржкамчарнобыля І.А.Кенік. Прамая лінія.
19.55. Рэйтынг.
20.10. Студыя "Тэлесябрына".
20.25. Пяць хвілін на жарты.
20.30. Кантакт.
20.35. Калыханка.
21.00. Панарама.
21.35. Пад купалам Сусвету.
21.45. "Ніхто, акрамя цябе". Заключная серыя.
22.30. Надвор'е.
22.40. НІКа.
22.55. "Свабодная ад мужчын". Маст. фільм.
0.15. Валейбол. Чэмпіянат Беларусі.
0.50. "Я + Я". Мужчына і жанчына.

#### *Канал "Астанкіна"*

8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 20.00, 23.15. Навіны.
8.20. "Небяспечны прыз", "Дзе гэта відана, дзе гэта чутна". Мультфільмы.
9.05. "Казка пра бусла".
9.15. Футбол. На шляху да Уэмблі.
10.20. Амерыка з М.Таратутам.
10.50, 23.25. Прэс-экспрэс.
11.20. Праўнукі Гамера. Гумарыстычная праграма.
14.25. Прадпрымальнік.
14.55. Бізнес-клас.
15.10. "Трывожная нядзеля".
16.35. Спявае А.Вядзернікаў.
16.50. Азбука ўласніка.
17.25. Навіны культуры.
17.40. Чалавек і закон.
18.10, 20.35. Надвор'е.
18.15. Амерыка з М.Таратутам.
18.45. Поле цудаў.
19.40. Добрай ночы, малышы!
20.45. "Забойства на Ждана͡ўскай". Маст. фільм.
22.15. Чалавек тыдня.
22.35. Оба-на.
23.35. Музагляд.

## 8 канал

### 14 апреля, четверг

18.00 Объявления. Реклама.
18.05 Мультсериал "Семейство Баркли". Мультфильм "Красная шапочка".
18.30 Спортивная параллель.
19.20 Телесериал "Лабиринт правосудия". "Эллиот против Мактевиша".
20.10 Мультфильмы.
20.30 "Новости". ММ-4.
20.45 Семейный круг.
20.55 Многосерийный фильм "Судьба". 50 серия.
21.35 Размышления о джазе.
22.25 Художественный фильм "Комната пыток" из серии "Я шпион".
23.15 Программа видеоклипов.
Заявки на прокат рекламных роликов в эфире 8 канала принимаются по телефону: 76-82-87.

### 15 апреля, пятница

18.00 Объявления. Реклама.
18.05 Многосерийный фильм "Краусель". Фильм "Парикмахеры" из цикла "Чудаки".
18.30 СОЛТЭК, "Дорэмифасольки".
18.35 Астра-класс.
19.05 Полицейский серил "Хилл Стрит Блюз". "Удар ниже пояса".
19.55 Журфак БГУ представляет...
20.05 Скрытая камера.
20.30 Телесериал "Швейцарские Робинзоны". 13 серия.
21.20 Ассоциация детской прессы. "Сделай себе карьеру".
21.30 Время местное.
21.50 Дела насущные.
21.45 "Схватка с бронзовыми бойцами Шао Линя". Художественный фильм.

## Спорт-экспрэс

* Сёння ў Аўстраліі пачынаецца асабістае сусветнае першынство па спартыўнай гімнастыцы. Тры спартсмены і столькі ж спартсменак выступяць ад Рэспублікі Беларусь. Гэта шасціразовы чэмпіён Алімпіяды ў Барселоне мінчанін Віталь Шчэрба, Іван Паўлоўскі з Гродна і мінчанін Іван Іванкоў, а ў жанчын — Алена Піскун з Бабруйска, мінчанка Вольга Юркіна і Алена Палазкова з Магілёва.

* Учора ў Віцебску стартаваў заключны фінальны тур чэмпіянату Беларусі па валейболу сярод мужчынскіх каманд. Перад рашаючымі гульнямі лідзіравалі армейцы нашай вобласці — 17 ачкоў. На ачко менш у віцебскага «Спадарожніка». Гэтыя дзве каманды і з"яўляюцца галоўнымі прэтэндэнтамі на залатыя ўзнагароды.

* Фінальны тур чэмпіянату Беларусі па гандболу закончыўся перамогай мінскага СКА. Выхаванцы нашага славутага трэнера Спартака Мірановіча з вялікай перавагай выйгралі ўсе тры матчы і цяпер у суперфінале будуць аспрэчваць званне чэмпіёнаў у матчы з мінскай камандай СКАФ. За «бронзу» паспрачаюцца слуцкая «Случ» і гандбалісты Рэспубліканскага вучылішча алімпійскага рэзерву.

* 17 красавіка ў аўстрыйскім горадзе Бад-Вальтэрсдорфе стартуе неафіцыйны чэмпіянат свету па тэнісу сярод жаночых каманд.
У розыгрышы Кубка федэрацый прыме ўдзел і каманда Беларусі, якую ўзначаліць мінчанка заслужаны майстар спорту Наталля Зверава. Разам з ёю на корт выйдуць Таццяна Ігнацьева, Марына Стэц і Вера Жукавец. Чакаецца, што ў спаборніцтвах прымуць удзел каля дваццаці каманд.

* На чэмпіянаце Беларусі па боксу найбольш паспяхова са спартсменаў нашай вобласці выступіў С.Дачкоў, які стаў чэмпіёнам у вазе да 91 кілаграма. У вазе да 75 кг другое прызавое месца заняў В.Самусенка.

■ Футбол

## У ДРУГОЙ І ТРЭЦЯЙ ЛІГАХ

Правялі першыя гульні другога круга чэмпіянату Рэспублікі Беларусь па футболу каманды другой лігі.

Напомнім, што пасля першага круга лідзіравалі футбалісты лідскага "Абутніка". Выйграўшы ў "Брэстбытхіма" — 1 : 0, яны маюць цяпер 25 ачкоў. І шэсць наступных месц займаюць каманды з абласцей рэспублікі, але няма сярод іх прадстаўнікоў Міншчыны.

Толькі на восьмым месцы знаходзіцца пакуль жодзінскае "Тарпеда", якое стартавы матч другога круга ў Віцебску згуляла ўнічыю з камандай КІМ-2 — 0 : 0. У жодзінцаў 15 ачкоў. На ачко менш мае "Сантанас", які, дарэчы, на сваім полі прайграў пінскаму "Камунальніку" — 0 : 4. У ніжняй частцы турнірнай табліцы знаходзяцца мінская "Змена" і АФВіС-РШВСМ. "Змена" згуляла ўнічыю з футбалістамі "Слоніма" — 1 : 1, а студэнты прайгралі мазырскаму "Палессю" — 0 : 3.

Цесна ў групе лідэраў трэцяй лігі. Па 30 ачкоў маюць мінская "Атака-Аура" і наваполацкі "Нафтан". Мінчане ў прайшоўшым туры, а ён у гэтай лізе ўжо дзевятнаццаты, перамаглі шчучынскі "Аўтапровад", а "Нафтан" дома згуляў унічыю з мінскай камандай "Дынама-ЮНІ" — 1 : 1. Толькі на ачко адстаюць ад лідэраў барысаўскі клуб "Фамальгаут" /былая "Бярэзіна"/ і гродзенскі "Кардан-Флайерс". Барысаўчане з лікам 3 : 0 на сваім полі выйгралі ў "Зары" з калгаса імя Скварцова і Маёрава Старадарожскага раёна, а "карданы" ў Рагачове згулялі ўнічыю з "Дняпром" — 0 : 0.

Сёмы радок у турнірнай табліцы займае мінскі "Трактар", які ў гэтым туры прайграў на сваім полі клецкай "Радзе" — 1:2.

Гэта, дарэчы, толькі другая перамога каманды Клецка пасля 19 праведзеных матчаў. Яна па-ранейшаму знаходзіцца на апошнім месцы.

Тры каманды з нашай вобласці займаюць месцы з адзінаццатага па трынаццатае. Былы "Электрамодуль", а цяпер "Маладзечна-2", згуляў унічыю з "Легмашам" — 0 : 0. нічыя зафіксавана і ў Смаргоні, дзе выступаў стаўбцоўскі "Нёман" — 1 : 1, а вось любанская "Арэса" на сваім стадыёне з буйным лікам прайграла бабруйскаму "Фандоку-2" — 1 : 5.

*/Наш кар./.*

**Наш адрас:**
220013, гор.Мінск, вул.Б. Хмяльніцкага, 10-А, паверх 9, рэдакцыя газеты "Мінская праўда".

ТЭЛЕФОНЫ:
прыёмнай рэдакцыі —68-29-76,
намесніка галоўнага рэдактара —68-25-81,
адказнага сакратара —68-26-48,
сакратарыята —68-26-48,
аддзелаў: Саветаў —68-26-38,
адукацыі і культуры —68-25-76,
сацыяльна-эканамічнага —68-25-43,
грамадска-палітычнага —68-25-42,
інфармацыйна-аналітычнага —68-28-33,
пісьмаў і маральна-бытавых праблем — 68-25-83,
ілюстрацыі —68-25-03, 68-26-48,
камерцыйнага — 68-25-86,
бухгалтэрыі —68-26-65.
Тэлефоны карэспандэнцкіх пунктаў:
у Барысаве —(8-277) 5-15-61, Вілейцы — (8-271) 5-57-86, Нясвіжы—(8-270) 5-41-88,
Салігорску — (8-210) 2-49-60.

ЗАСНАВАЛЬНІК — Мінскі абласны Савет народных дэпутатаў, 220625, г.Мінск, вул. Энгельса, 4.
"Мінская праўда"— орган Мінскага абласнога Савета народных дэпутатаў.

Галоўны рэдактар М.А.ШЛОМА.

Рэдакцыя можа друкаваць матэрыялы ў парадку абмеркавання, не падзяляючы пункту гледжання аўтара.
Адказнасць за падбор і дакладнасць апублікаваных фактаў і іншых звестак нясуць іх аўтары.
Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.

Час падпісання ў друк: па графіку 22.10. Нумар падпісаны ў 22.00.
Набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе "Мінскай праўды". Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку". 220013, г.Мінск, пр. Ф.Скарыны, 79.
Тыраж 17763. Індэкс 63923. Зак.№40.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12